# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1621) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 7 ЧЭРВЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Агляд адкрыў песняй „Мілы край" 60-асабовы дзіцячы хор бельскай „тройкі" — „Славяне". Дырыжор — Галіна Наўмчук.




## ДЗЯКУЙ ЗА ПЕСНІ!

Не забывай ты роднай мовы,
Напеву песні дарагой,
Жывой абраднасці народнай
І шуму пушчы векавой.

Песня Э. Гойліка на словы В. Шведа, якую моцна праспяваў Адам Жарнамчук з Рыбалаў.

16 мая ў Бельскім доме культуры прайшоў цэнтральны агляд „Беларуская песня '87" для школьнай моладзі.

Выступілі салісты, малыя трупы і хоры, якія прабіліся праз раённыя агляды. А было такіх шчаслівых аж 35. Яны спявалі кожны па дзве песні. У цэнтральным аглядзе прынялі ўдзел дзеці з мясцовасцей: Аўгустова, Барысаўка, Беласток, Бельск, Гайнаўка, Гародчына, Дашы, Дубіны, Дубяжын, Кляшчэлі, Нараў, Нараўка, Новаберазова, Пашкоўшчына, Райск, Рыбалы, Старое Ляўкова, Старына, Храбалы. Не прыехалі па нейкай прычыне дуэты з Курашава і Райска.

Праспявалі маладыя спевакі 70 песень. Былі сярод іх песні агульнавядомыя, заўсёды любімыя, але і пачулася шмат новых. Было многа вядомых песень, якія выконваліся па-новаму. Былі вельмі, але то вельмі цікавыя інсцэніроўкі песень у выкананні вакальна-танцавальных калектываў. Бесканкурэнцыйнымі тут аказаліся калектывы з Кляшчэляў і гайнаўскія „Бядронкі".

Высокае сцэнічнае майстэрства, як заўсёды, паказалі калектывы з беларускай школы № 3 у Бельску — „Нашы дзеці" і „Жучкі". Гэты апошні — новы калектывік маленькіх дзетак.

(Працяг на стар. 5)

# ПАМЯТАЦЬ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ

**Тэкст выступлення старшыні ГП БГКТ А. Баршчэўскага, занесены ў пратакол II кангрэсу ПРОН, які адбыўся 8.V.1987 года ў Варшаве.**

Шаноўны Пан Старшыня, паважаныя Дэлегаты.

Чатыры гады таму назад падчас I кангрэсу ПРОН я не меў магчымасці выступіць і прадставіць найбольш істотныя праблемы, звязаныя з беларускай нацыянальнай меншасцю ў Народнай Польшчы. Прагну, аднак, агаварыцца, што тэкст майго нерэалізаванага выступлення, унесены мной у пратакол Кангрэсу, быў без найменшых змен апублікаваны ў матэрыялах I кангрэсу.

На працягу чатырох мінулых год былі вырашаны некаторыя з нашых праблем. Аднак большасць іх не толькі асталася, але і памнажылася.

Праўдападобна не ўсе дэлегаты ведаюць аб тым, што галоўным чынам ва ўсходняй Беласточчыне пражывае 300000 беларусаў. Ад самага пачатку існавання Народнай Польшчы беларусы рашуча падтрымлівалі новую грамадскую сістэму. Многа беларусаў загінула, змагаючыся з праціўнікамі новага ладу на Беласточчыне, у Бяшчадах і ў многіх іншых раёнах Польшчы.

Да 1956 года не існавалі ніякія арганізаваныя формы беларускага руху. У 1956 годзе было паклікана да жыцця Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое сталася прадстаўніком інтарэсаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Галоўныя мэты, якія БГКТ ставіла перад сабой і ставіць, заключаюцца ў захаванні беларускай нацыянальнай тоеснасці, у развіцці беларускага аматарскага руху, які імкнецца да замацавання прыгажосці роднага фальклору, у пашырэнні навучання роднай мовы на той тэрыторыі, дзе жывуць беларусы; у інспіраванні беларускага літаратурнага руху; урэшце — у захаванні беларускай матэрыяльнай культуры ў Беларускім этнаграфічным музеі ў Гайнаўцы. Якраз названыя мною чатыры галіны з'яўляюцца прыярытэтнымі ў нашай дзейнасці.

Прагну з удзячнасцю сказаць, што наша дзяржава прызнача-

(Працяг на стар. 4)

# ХРОНІКА

### У ДУБРОВЕ

17 мая пад старшынствам Аркадзя Сулімы адбылося пасяджэнне Прэзідыума Дуброўскага аддзела БГКТ. На пачатку прысутныя хвілінай цішыні ўшанавалі памяць аб нядаўна памёршым Аляксандры Рафаловічы, штатным працаўніку ГП на Сакольскі і Дуброўскі аддзелы. Затым працаўнік ГП на Дуброўскі аддзел Уладзімір Парфен выступіў са справаздачай аб працы БГКТ ад верасня мінулага да мая бягучага года.

У гмінах Дуброўскай і Навадворскай існуе 10 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца 172 члены. Паспяхова працуюць мастацкія калектывы ў Грабянах, Сынкоўцах, Хільмонах-вёсцы, і ў Хільмонах-хутарах. Ва ўсіх гуртках былі праведзены сходы, прысвечаныя пашырэнню дзейнасці БГКТ. Аддзел яшчэ не знайшоў адпаведных формаў працы з моладдзю. Пажаданым было б, каб хоць раз у год арганізаваць якую-небудзь экскурсію. Бэгкатоўцы найбольш ахвотна наведалі б Беларусь. Дзеля ўмацавання мастацкіх калектываў неабходна арганізаваць ім выступленні не толькі на Дуброўшчыне, і ў гэтай справе патрэбная дапамога з боку Галоўнага праўлення БГКТ.

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі і прынялі план працы да канца бягучага года. У ім, між іншым, прадбачваецца народны фэстын, прысвечаны 70-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, правядзенне Купалаўскай ночы і экскурсія ў Аўгустоў з паездкай параходам па азёрах. Вырашана арганізаваць яшчэ адзін гурток БГКТ, павялічыць колькасць падпісчыкаў „Нівы", запрашаць літаратараў з аб'яднання „Белавежа" на аўтарскія сустрэчы, а таксама збіраць грошы на пабудову і экспанаты ў Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.

У пасяджэнні Прэзідыума прынялі ўдзел старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі і член Прэзідыума М. Хмялеўскі, якія падчас дыскусіі гаварылі аб ролі БГКТ у беларускім асяродзі. Па просьбе прысутных А. Баршчэўскі выступіў з дэкламацыяй сваіх вершаў.

Пасля заканчэння пасяджэння ўдзельнікі яго перайшлі ў мясцовы дом культуры, у якім адбыўся агляд беларускіх тэатральных калектываў. Перад аглядам старшыня ГП расказаў аб бягучай працы Беларускага таварыства. (мх)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 336




*Нарадзіўся я 6.11.1963 г. у Бельску-Падляшскім. Закончыў Бельскі беларускі ліцэй. Цяпер студэнт V курса беларускай філалогіі ў Варшаве.*

*Упершыню выступіў у друку на старонках студэнцкага часопіса „Сустрэчы“.*

## НОЧ НА МАЛЫМ ВАКЗАЛЕ

на малым вакзале
ціхутка плача
не ў яе сілах адшукаць сына
паяц у белым строі скача
крычыць што свет
і так загіне

цягнік адходзіць
ён машына
яму не ў смак чужыя словы
яна шукае свайго сына
у хвалі крыўд
бяды і адмовы

камора дыхання
агонь замыкае
дзве зоркі на перон спадаюць
чаго яна хоча яна не мае
паяц і пасажыры
усе гуляюць

ноч пакрывае
людскія твары
каты збіраюцца на работу
яна і цень у адной пары
крыюць у душах
сваю турботу

малы вакзал
світання чакае
ён бачыў ужо жыцця не мала
у яе вачах надзея ўмірае
зноў на шчаку
сляза упала

* * *

забяры мяне
у гэты сон
у гэты сон
без трох акон
без трох дзвярэй
без тых вачэй
якіх шукаў
якіх не знаў

вазьмі мяне
у гэты дом
у гэты дом
скрыты святлом
святыню ночы
пагібель дня
вазьмі мяне
там буду я

падкінь мяне
у ложак той
у ложак той
поўны вадой
няхай цячэ
няхай цячэ
няхай бярэ
усё бярэ

вазьмі мяне
у гэты дом
у гэты дом
скрыты святлом
святыню ночы
пагібель дня
вазьмі мяне
там буду я

## ПЕСЕНЬКА

ты глядзі
ты глядзі
глядзі
як на свеце ўміраюць людзі
без душы
без душы
душы
іх ніхто ўжо не разбудзіць
і ты плач
ты плач
плач
слёзы горкія вылі на шчокі
ім прабач
ім прабач
прабач
свет замкнуўся для іх шырокі
і ляці
і ляці
ляці
лебедзь-птушка дае табе крылы
і крычы
і крычы
крычы
што жыццё табе вельмі міла
а калі
а калі
калі
хтось пачуе дзесь твае словы
то скажы
то скажы
скажы
што да смерці яшчэ не гатовы
не маўчы
не маўчы
маўчы
крыкам вырві з сябе тую сілу
я і ты
ты і я
я і ты
пабудуем адну магілу
такі пах
такі пах
пах
кветак пах на малым загоне
а ў руках
а ў руках
руках
белы крыж а на ім знак пагоні

**Андрэй Сцепанюк**






У мястэчку жывецца ад снедання да абеду, потым хутчэй да вячэры (каб паспець да тэлевізара).

У руінах, што за гумнамі, абсталёўваюць куратнікі, а хвалёны Кінчыбайла, званы таксама Бамбізаю, даставіў там сабе хлевіска для сярэбраных лісоў. У паркі канец вясны кавалерка водзіць туды разбэшчаных маладзіц, у заралі чорнага бэзу паміж недаваленымі сценамі з каменёўя ды з доўгай, сярэдневяковай. цагліны. У поўню палохае тут Белая Пані; яна з'яўляецца на. аброслай бярозкамі, вежышчы, якую разбірае дзеля фундаменту пад свой другі дом Кінчыбайла (сыну ставіць).

Не адзін толькі яго род пабагацеў калісьці на шнаранні ў мурах, вывезеных немцамі жыдоўскіх купцоў і фабрыкантаў. Стары Кінчыбайла, больш вядомы як Бамбіза, так і наклаў тады галавою, уночы ўцякаючы перад жандарамі ў завулкі гета і з насценным гадзіннікам у мяшку за плячыма, які, як на тую бяду, пачаў званіць. А ў другі фронт, калі снарадам набіла гусей на двары плябаніі і міна разарвала чыйгосьці кормніка, што вылез быў са схову, каб паваляцца ў балоце на скрыжаванні, — меншы Бамбізік, які зусім удаўся ў бацьку, пакваліўся акурат на пярсцёнкі на руках нябожчыка — пана, днямі пахаванага ў маянтковай магільні. І падлез пад кулю нямецкага снайпера, што засеў на званіцы, адкуль цікаваў ён за савецкімі разведчыкамі.

Большы з іх выжыў, вызвалення прычакаўшы ў малінах. Ён млеў не так ад выбухаў на вуліцы ды пасвістваючых асколкаў, як ад таго, каб не чыхнуць хоць: прыбіліся пад яблыню за разораю бандытаватыя ўласаўцы, мацюгаліся яны і заядла матлашылі якуюсьці чужую бабу, выглядаючы штораз, бы гусакі з зялёнага аўса...

Усе тыя здабыткі панеслі сабакі пад хвастом, калі пры новай уладзе лепей было паказаць сябе бедняком. Найразумней, аднак, зрабілі тыя, хто, на нішто не спадзеючыся, пыльнуў у апусцелы за акупацыю горад. Гаварылася пра іх, што пасталі яны на работу і бяруць грошы. Гэтак пакіраваць сабою мог ужо стары і малы. Мястэчка гібела, але — чорт яго не браў! — аніяк не прападала. Цяпер жа ажывае: каля навюсенькіх хлявоў адгрукаў сёй-той пекную хату або, нават, і свежую мураванку. Унукі гэта будуюцца, зарабляючы дзе папала і як папала, абы каб многа. Іх кумпястыя жонкі сыплюць дзецярнёю, што і вырашае будучыню. Ды і вясковых бежанцаў нясціхана прыбывае ў ім.

**Сакрат Яновіч**

## ВЕРШЫКІ ЮСТЫНЦІ

* * *

едэм з сонцём едэм
дорога спуод нуог
у діеда борода як еж
у мамы пальцы як шоўк
— туолько прасті тонку думку
як сівы швітконогі дэрэва
і ліес качнувся проважаўшы нас
ой віетёр віетёр — гультаіско
і нэбо шыроке
— а вы всё з намі

* * *

ты зайчэня пробудіш мэнэ
пальчыком-проміеньчыком
прыкоснэшся твару,
шчэ ж сонце велізнэ нэ встало
роса як буоб
на травінках віесіт
нэхто нэхто в росіе
нэ вымыецця пэршы
хіба што бэссоннік
вінкі закрыты і двэры дому
спіт на мэдові пшчола...
ты зайчэня
будіш

* * *

ростэ мое дітя
всё буольш по звёздах блудіт
пытае про жоўты дождж
чы то як чары-мары
пытае як сохнут з жалю
і з радості ростут
і в волосах своіх
сілу Самсона таіт

* * *

зэлёны ліес одкрывся нам
в жміеньці позюмкі
— і сонця сонця
сохраніось сёй час
— ясны і добры
нэ всэ ж нам разом

**З. Сачко**

## ВЯСЕННІЯ РОЗДУМЫ

Было калісь —
І ўжо не паўтарыцца...
А вецер гоніць цёплую вясну,
Няўжо ўсё роўна, дзе
прыйшлось мне пасяліцца?
Усё роўна, дзе жыву я, дзе
памру?
А мо не так...
Ці тою ж я дарогай
Пайшла шукаць жыцця-быцця?
Свайго я раздала даволі многа —
Узамен хацела шчырасць-ласку
узяць —
Бы неразумнае дзіця.
Таго не раздаюць нідзе —
Тавар сарамлівы ў наш век
імклівы.
Разумныя грабуць усё,
Што ім трапляецца —
шчаслівыя,
Калі накопяць ўжо ўсяго
Паверх сябе.
Няхай і так — затое
Ім не адчуць таго,
Што ўжо вясняны вецер
Прынёс з палёў сырое пах
зямлі
І дзесь ў далёкай вёсцы дзеці
Па лужынах пускаюць
лодкі-караблі.
Над Нарвай лотаць зацвіла
Так жоўта-жоўта —
Хоць ты з яе яешні напячы
— Мне не ўсё роўна, дзе жыву я
І дзе прыдзецца памярці.

**А. Анішэўская**




## „ЯНА ГУСАКА СКУБЛА...“

Начытаўшыся рэцэптаў „Беларускай кухні“, якія публікуе „Ніва“, успомніўся мне рэцэпт, які я некалі чытаў у славутай „Маланцы“.

У сваіх адказах чытачам „Маланка“ змясціла вершык, дасланы адным з карэспандэнтаў:

*„Яна гусака скубла,*
*Пасля, распусціўшы масла,*
*Яго ў чэрап утаўкла,*
*У печ паставіла, спякла...*
*Аж у мяне слінкі пацяклі.*
*А ў вас?“*

Адказ рэдакцыі: „Паважаны карэспандэнт! І ў нас і, верым, у нашых чытачоў пацяклі і пацякуць слінкі, але вы болей такіх інфармацыяў не дасылайце. Нашы чытачы ў большай часткі з беднага асяроддзя і калі, можа, каторы і гадуе гусі, то ён іх прадае, каб купіць солі, газы, сахарыны. Ні сам ён, ні яго бацька, ні дзед і не каштавалі гусяціны, толькі чулі, што быў такі шчаслівец, які бачыў, як яго пан аблізваў гусіныя лапкі“.

Аддаліўся я ў сваю памяць, у дзяцінства, і прыпомніў сабе кухню тых часоў. Хачу перадаць тут некалькі тадышніх рэцэптаў ежы, можа выкарыстае „Ніва“.

Сем'і тады былі вялікія. Людзі не ведалі кулінарных прамудрасцяў, а есці хацелі, бо заўсёды былі недаеўшы. І ў нашай сямейцы было нас сямёра дзяцей, тата, маці, цётка-паненка, дзядуля. Памятаю найсмачнейшае, што тады святам я еў: перамывалі мы кошык бульбы, выкалупвалі храсткі з яе і яшчэ раз перамывалі, церлі на тарцы (не абскрабаўшы, каб больш было), дадавалі трохі грэцкай мукі, рабілі рукамі вялікія аладкі і на сухім капусным лісці пяклі ў печы, адкуль даставалі ўжо спечаныя, абрывалі тое лісцё, клалі аладкі ў верцеху або ў ражачку, аблівалі шчолакам з панцаку, у якім, калі гатавалася крыху старое бараніны, то быў гэты шчолак белы, а калі без бараніны — то як бы апельсінавы (памаранчовы). Цэлы гэты, так нарыхтаваны, прысмак называлі „ладэды“. Ах, як я любіў гэтыя „ладэды“. Ды мала выпадала мне іх на маю долю.

Згаварыўся я са знаёмым пра даўнейшае ежыва. І ён кажа: „Я, калі быў малы, надта любіў накласці бульбяных лупінаў на гарачую пліту, яны прыпякаліся, і тады я аб'ядаўся імі!“

Мая Луцэя расказвае: „Заходжу я да цёткі Палоссі, а яны сама снедалі. Насыпала яна ў верцеху гатаванай бульбы з лупінамі, а ў другую верцеху — параных дзічак. Абедзве верцехі паставіла на стол. Лупілі яны бульбу і з дзічкамі елі яе. Абы кішку ашукаць“, — дадала Луцэя.

Праўда, у цёткі Палоссі была груша каля хаты. Грушы ці яблыкі, калі іх хто меў, рэдка даспявалі — дзеці не давалі ім даспець, латашылі, нават завязі рвалі.

Было ўжо па вайне, калі я зайшоў да пісьманосца ліст

(Працяг на стар. 7)



## Свойскія малюнкі



*Стары Беласток. Вуліца Мазавецкая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## Так бывае...

Цяперашнія бацькі, як кошкі тыя, мала ў хвост не цалуюць сваіх дзетак, так яны імі захоплены. А дзеткі і вухам не вядуць на беды нашы, усё сабою займаюцца, бацькам зусім перасталі дапамагаць. Працавітасць зрабілася ў іх нечым смешным, а справядлівасць і дастойнасць хутка будуць лічыцца псіхічнай хваробаю!

Вось нараўская Верка і яе дачка Жэня. Засталася ўдавою Верка з пяцярмі дзяцьмі. Цяжка ёй раптам зрабілася; суп горшы згатуе — малыя есці не хочуць. „Нясмачна!“ — крычаць.

Жэня, найстарэйшая, пайшла ўжо ў сёмы клас. Яе там выбралі скарбнікам ашчаднай школьнай касы, грошы пачала прымаць, на пошту іх здаваць. Аднойчы Жэня не вярнулася са школы, не прыйшла і нанач. Аказалася потым, яна ўцякла з грашыма. Бо прыходзілі са школы да Веркі і пыталіся, што з Жэняй? Дзе яна? І што з грашыма, якія былі ў яе?

Жэня драпанула на захад Польшчы, уладкавалася на работу ў якімсьці пэгээры; грошы развяла, вошы напалі. Тады паехала яна да цёткі, Верчынай сястры. Жыве ў яе тыдзень, жыве другі, урэшце сястра піша Верцы: забірай Жэню. А Верка адпісвае: раз ты ўзялася маткаю ёй быць, то і гадуй яе, глядзі толькі, каб на калтыгу не вырасла. Зноў піша сястра: Жэня сама вернецца, прыедзе. Прачытаўшы тое, намачыла Верка пута і чакае Жэнькі. Прыязджае Жэнька, уваходзіць у хату, а Верка путам па ёй, путам тым макрэзным і пякучым: „Валакіта ты няшчасная, так ты мне за дом і хлеб адплаціла, і ў школе зладзейкаю аганьбілася, усё мястэчка рагоча з цябе, неўдалота ты праклятая!“ — спавядала Верка сваю Жэньку.

Маці іначай і не адзывалася да дачкі, як найгоршымі словамі. Часам, як з вялікае ласкі, залемантуе: „Жэнька!“, і Жэня, як не стаяла, бяжыць да маткі, бо матка чагосьці хоча ад яе... І так, памалу, крыўда маці пераўтваралася ў крыўду дачкі. А крыўду крыўдаю не паправіш!

Жэня пачала вырастаць на паненку. Пойдзе на забаву, хлопец які праводзіць яе пасля дахаты, каля брамкі пастануць, пачуе тое маці, іх ціхую гаману, расчыніць акно і верашчыць на ўсю начную вуліцу: „Вон дахаты, палятуха!“ І Жэня кідае хлопца, як ні стаяла, ды стрымгалоўем у дом.

Бабуля калісьці пытаецца ў Жэнькі, калі яна ўжо і замуж выйшла, і сваіх дзяцей мела:

— І не злуеш ты на сваю маці за тое, што яна так біла цябе і абзывала?

— Ой, бабусю, можа і залішне біла ды крычала, можа і крыўда якая засела ў мяне, але цяпер, калі і ў самой ужо радзіна і дзеці, то я так думаю: не павінна я занадта крыўдаваць...

— Добрая з цябе дачка, што не паддалася ты крыўдзе, — сказала бабуля, паслухаўшы Жэнькі. — Мо і праўду кажаш, што зладзейкай была б, валацугаю... Вялікая цяпер распуста настала. Дзеці не слухаюцца бацькоў, робяць што хочуць. Нічым добрым тое не скончыцца: балаган і бяда. Біць — кепска, і не біць, таксама, нядобра... Што рабіць, як ратавацца ад пагібелі чалавечага роду?! — забедавала бабуля.

Добра, што крыўда маці пераважыла крыўду дачкі, — біла і ганяла, свабоды не давала. Але ці было ў маці якое іншае выйсце?

**Аўрора**




# ПАМЯТАЦЬ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ

(Працяг са стар. 1)

ла і прызначае даволі значныя сродкі для беларускага аматарскага руху. Праўда, не ўсе нашы патрэбы ў гэтай галіне задаволены, але ўсё ж такі сродкі, якія атрымліваем на строі, інструменты і пераезды мастацкіх гурткоў, параўнаўча вялікія. Пры гэтым, аднак, не аформлена да сёння вельмі істотная справа — недахоп інструктараў-спецыялістаў у галіне беларускай харэаграфіі і вакалістыкі. Усе нашы дзеянні ў напрамку высылкі выпускнікоў беларускіх ліцэяў на вучобу ў беларускія савецкія вышэйшыя школы з мастацкім профілем, не далі рэзультатаў.

Што датычыцца другой, вельмі істотнай галіны — беларускай асветы, дык з прызнаннем прагну падкрэсліць, што ў Народнай Польшчы створана сетка пачатковых школ, два агульнаадукацыйныя ліцэі і вышэйшая ўстанова, якія займаюцца навучаннем беларускай мовы і літаратуры. І хаця нас не здавальняе тое, што беларуская мова ніколі не была ў пачатковых школах зраўнаная ў правах з іншымі прадметамі, то ўсё ж такі цешыць тое, што друкуюцца падручнікі для навучання беларускай мовы, што апрача пачатковых школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, дзейнічаюць два ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы, а таксама адзіная ў свеце па-за межамі Савецкай Беларусі, Кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Усё гэта важныя і глыбока здавальняючыя факты. Аднак у галіне беларускай асветы маем многія нявырашаныя праблемы. Пры дапамозе ПРОНу ў Беластоку, звярнуліся мы да асветніцкіх улад з многімі прапановамі, якія маглі б дапамагчы пашырэнню навучання беларускай мовы. Разлічваем на дзейсную падтрымку ПРОНу ў гэтых справах. Галоўным чынам цікавіць нас пабудова школ у беларускім асяроддзі і асабліва — будынка Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Як я ўжо сказаў, адна з істотных галін у нашай дзейнасці — гэта беларускі літаратурны рух. У гэтай галіне маем істотныя дасягненні. Ужо сем аўтараў, якія пішуць па-беларуску, прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў. Магло б здавацца, што гэта можа выклікаць толькі здавальненне. Таго, аднак, няма. Можна сказаць, што ёсць нешта зусім адваротнае. Выступаюць тут з'явы, якія выклікаюць не толькі трывогу, але і пратэст. Справа ў тым, што ўжо некалькі гадоў пісьменнікі, якія пішуць па-беларуску, не атрымліваюць за свае творы ганарараў. Вядома, што ліквідацыя ганарараў аднапачна тут з ліквідацыяй беларускага літаратурнага руху ў Народнай Польшчы. Нічога за-




(Працяг са стар. 1)

Выдатна выступіў таксама калектыў з Дубіноў.

У катэгорыі малых вакальных груп вельмі добра выступілі два дуэты: маленькіх сястронак Семянюк з Храбалоў і таксама сястронак Зубрыцкіх з Нарвы.

Багата было салістаў. Сярод іх выявіліся новыя таленты, якія адразу заўважыла не толькі конкурсная камісія, але і гледачы, а што найважнейшае — самі ўдзельнікі агляду. Гэта чатыры асобы: Агнешка Камінская з Кляшчэляў, Артур Паўлік з Райска, Адам Жарначук з Рыбалаў і Іаанна Барташэвіч з Кляшчэляў, уся чацвёрка — гэта вучні II — V класаў.

Спраўна па-беларуску вялі гэты вялікі каляровы і мілы канцэрт юных беларускіх спевакоў дзве вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя: Галіна Васіленка кл. II„б" і Іялянта Дзмітрук кл. III „ц".

А вось і вынікі агляду.

**Салісты.** Група 0-III класаў: I месца — Агнешка Камінская з Кляшчэляў, II — Крыстына Семянюк з Храбалоў. Група IV-VIII класаў: I — Артур Паўлік з Райска, Адам Жарначук з Рыбалаў, Іаанна Барташэвіч з Кляшчэляў; II — М. Аліфер са Старога Ляўкова, М. Вярбіцкая з Наравкі, М. Пракапюк з Пашкоўшчыны, III — Э. Заброцкая з Аўгустова, Т. Назарук з Гародчыны.

**Малыя вакальныя групы.** 0-III класы; дуэты: I — К. і I. Семянюк з Храбалоў; II — Каліноўскі — Харкевіч з Нараўкі; IV-VIII класы: дуэт Зубрыцкіх з Нарвы, дуэт Богуш-Копа з Беластока; II — дуэт Шэратуха-Ваўрэнюк з Дубяжына; трыо з Аўгустова, дуэт М. Такаюк — I. Евюк з Дашоў; III — дуэт Аліфер — Сухадола са Старога Ляўкова.

**Вакальныя і вакальна-танцавальныя калектывы.** 0-III класы: I — калектыў з Кляшчэляў і „Жучок" з Бельска; IV-VIII класы: I — „Нашы дзеці" з Бельска; II — Дубіны, калектыў „Беларусачкі" з Дашоў.

**Хоры.** I — хор са Старога Ляўкова.

Узнагароду „Зоркі" атрымала Агнешка Камінская з Кляшчэляў.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Алесь Баршчэўскі уфундаваў прыватную грашовую ўзнагароду для школы ў Пашкоўшчыне. У нашым мастацкім руху такая ўзнагарода паявілася ўпершыню. І трэба гэты факт прывітаць вельмі сардэчна. Свае ўзнагароды можа фундаваць кожны, на кожным конкурсе. Могуць быць гэта і рэчавыя і грашовыя ўзнагароды. Такая практыка даўно існуе на цэлым свеце. І ў нас першы крок зроблены. Заклікаем пайсці гэтым следам. Заклікаем фундаваць, хай самыя скромныя, але свае ўласныя, асабістыя ўзнагароды ўдзельнікам нашых конкурсаў.

Узнагароды ўручалі: старшыня ГП БГКТ Алесь Баршчэўскі, ст. візітатар Куратарыума Сцяпан Крэнтоўскі і Сяргей Лукашук — дырэктар Бельскага дома культуры, якому сардэчна дзякуем за добрую арганізацыю агляду і за пачастунак для ўдзельнікаў.

Асобную падзяку выказваем працаўнікам Бельскага дома культуры, заўсёды надзейным хлопцам Лявону Кудзіну і Багуславу Шульцу, якія абслугоўвалі мікрафоны і ўсю апаратуру, а таксама акампаніравалі на розных інструментах многім удзельнікам і калектывам. Дзякуем і Анне Бжазоўскай — інструктару ГП БГКТ на Бельскі раён за добрую падрыхтоўку агляду.

Аб удзельніках гэтага конкурсу школах, у якіх яны вучацца, і настаўніках, якія іх вучаць і дзякуючы якім увогуле гэтая цудоўная імпрэза жыве, будзем пісаць больш у „Зорцы".

Хачу яшчэ некалькі слоў найпрыгажэйшых, самых сардэчных накіраваць да настаўнікаў-інструктараў, настаўнікаў-апекуноў: яны на аглядзе асталіся ананімнымі, не называліся іх прозвішчы, а яны ж рыхтуюць у штодзённай цяжкай працы вялікі і пераможны паход беларускай песні ў выкананні школьнікаў. Сардэчнае дзякуй вам! Супольнымі сіламі, вялікім намаганнем падрыхтавалі вы агляд беларускай песні школьнікаў на высокім узроўні, з новымі многімі песнямі, цікава рэалізаванымі, у выкананні здольных дзяцей, апранутых у багатыя беларускія народныя строі! **(вв)**



**Гледачы. На першым плане вядучыя агляд— вучаніцы Беларускага ліцэя ў Бельску.**

тым дзіўнага, што беларускія аўтары гавораць аб дыскрымінацыі. Іншыя назовы для гэтай сітуацыі былі б праявам крывадушнасці.

Хачу сказаць, што праз ПРОН у Беластоку мы накіравалі ў гэтай справе свае пастулаты ў Міністэрства культуры. Зрабілі гэта болей чым паўгода назад. Да сёння, аднак, не атрымалі адказу. Верым, што і ў новай кадэнцыі ПРОН падтрымае нас у гэтай вельмі істотнай справе.

Не найлепш выглядае справа пабудовы Музея помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры ў Гайнаўцы. Дагэтуль мы сабралі на Музей 8000000 злотых і 3000 долараў. Дзякуючы гэтаму маглі апрацаваць поўную дакументацыю пабудовы і пачаць адаптацыйныя ўступныя работы ў прызначаным на Музей будынку. Непаслядоўнасць беластоцкіх адміністрацыйных улад заключаецца ў тым, што нягледзячы на нашы намаганні, дагэтуль Музей не ўведзены ў так званыя чынавыя пабудовы. З гэтай прычыны нашы дзеянні пры пабудове Музея маюць як бы паўлегальны характар. Вельмі моцна верым, што ПРОН дапаможа нам нармалізаваць юрыдычны аспект справы, што дазволіць нам паскорыць пабудову Музея. Мэта яго — забеспячэнне матэрыяльнай культуры, якая з'яўляецца пасведчаннем нашай нацыянальнай тоеснасці, таксама важная як родны фальклор і родная мова. Разлічваю таксама на тое, што ПРОН дапаможа нам выйсці з ізаляцыі, якая ўсё яшчэ нас акружае ў прэсе, радыё і тэлебачанні. У далейшым яшчэ многія людзі ў Польшчы, — думаю, што такія знаходзяцца і сярод дэлегатаў, — не ведаюць, што ўсходняя Беласточчына з'яўляецца дзвюхмоўнай, дзвюхрэлігійнай і дзвюхнацыянальнай. Чым хутчэй гэты факт будзе даведзены да ведама ўсіх палякаў, тым будзе лепш і для палякаў і для беларусаў.

Шаноўныя Дэлегаты. Удзел беларусаў у барацьбе за народную ўладу ўчора і ўдзел беларусаў у сацыялістычным будаўніцтве сёння поўнасцю матывуе наша імкненне да ўдзелу ва ўладах розных тыпаў і розных узроўняў. На жаль, гэты факт не быў узяты пад увагу ў часе апошніх выбараў у Сейм, калі прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці не былі ўведзены ў выбарныя спіскі кандыдатаў у Сейм. Да сённяшняга дня БГКТ не атрымала ніякага адказу на свае прапановы ў гэтай справе, накіраваныя ў найвышэйшыя ўлады ў нашай краіне.

ПРОН у Народнай Польшчы — гэта масавая арганізацыя. Верым, што яго ідэі дойдуць да найшырэйшых колаў польскага грамадства і да ўсіх яго пакаленняў. Горача прагнем, каб сярод гэтых ідэй знайшлася і тая, у якой будзе максімум інфармацый аб жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Верым, што паглыбленыя веды аб беларусах ва ўсім польскім грамадстве памогуць нам рэалізаваць тыя намеры, якія будуць спрыяць захаванню беларускай нацыянальнай тоеснасці. А гэта выставіць прыгожае сведчанне нацыянальнай талерантнасці і эмансіпацыі ў Народнай Польшчы.

**Аляксандр Баршчэўскі на II Кангрэсе выбраны ў склад Рады краёвай ПРОН.**




## „МОНДРЫЯ ГЛОВЫ"

Колькі дарэмна марнуецца так званай белай энергіі ў нас! Вось на рэчцы Арлянцы ва ўрочышчы Бахматы пабудавана штучнае возера. З гэтага возера выплывае сапраўдны вадаспад, вышынёю каля трох метраў. Шуміць ён і ўдзень і ўночы, з рыкам разбіваючыся на камянёх унізе. Гляджу я на тое і думаю сабе: гэта ж млын тут вадзяны добра было б паставіць — энергія ёсць. Мог бы быць млын з вальцамі, усякую муку малоў бы, нават на пірагі.

Калісьці, да вайны, быў такі млын у недалёкай Орлі, на той жа Арлянцы. Млын гэты і сёння стаіць там, але чамусьці пераключылі яго на электрычную энергію, усё роўна як бы ў нас тае электрычнасці няма куды падзець... Чуў я ад людзей, якія знаюцца на справе, што на Бахматоўскім возеры магчыма і электрастанцыю невялікую паставіць, і давала б яна электраэнергіі вёскам усяе Дубіцкай гміны. Гэтая электрастанцыя не толькі хутка аплацілася б самая, але і выдаткі на збудаванне таго возера вярнула б праз нейкі час. Трэба варушыць мазгамі і думаць!

Чаму ў такой маленечкай Галандыі, у Нідэрландах тых, то і вецер выкарыстоўваюць, ветракі даюць ім не толькі электрычнасць, але і ваду выпампоўваюць з заліўных палёў. Зямля ў тых галандцаў не такая ўжо вельмі добрая, а ўмалоты ў іх у тры або і ў чатыры разы большыя, чымсьці ў нашых гаспадароў. Значыць, культура дае больш хлеба, уменне пакарыстацца зямлёю і прыродаю. А ў заможнай Швецыі — самы высокі ў свеце ўзровень дабрабыту ў іх! — так усё арганізавана, што нават цёплая вада з ванны не сплывае ў каналізацыю, але спачатку выкарыстоўваюць яе на абаграванне кватэры. Ніводнае калорыі цяпла яны не змарнуюць! І хоць у іх фабрык поўна, але рэчкі іхныя такія чыстыя, што піць з іх можна. А ў нас? Мы ўсё яшчэ няўмекі, усё марнуем і марнуем, не ўмеем пакарыстацца багаццем сваёй прыроды і тэхнікай, якую маем. Будзь такое Бахматоўскае возера ў Швецыі, даўно вадаспад ягоны быў бы ўжо выкарыстаны. Зрэшты, даўней у гэтым месцы стаялі вадзяныя млыны, пра тое ўжо маладыя не памятаюць і не ведаюць. Выходзіць на тое, што нашы дзяды былі акуратнейшымі ў выкарыстанні натуральных магчымасцяў, чымсьці мы, іхныя ўнукі і праўнукі. Умеем усяго „мондрыцца" званнямі і кіраўнічымі пасадамі, аднак нашы „мондрыя гловы" аказваюцца даволі пустыя...

**М. Панфілюк**



## НАША ПОШТА

### ЛІСТ З КУРАШАВА

Атрымаў я ліст ад курашаўскіх жанчын. Пра іх грамадскую актыўнасць і культурную дзейнасць даводзілася мне пісаць ужо не адзін раз.

Гуртком вясковых гаспадынь у Курашаве (гэта Чыжоўская гміна) ад няпамятнага часу кіруе энергічная жанчына Ніна Грыгарук. Яна адначасова — гаспадыня ў тутэйшым вясковым клубе. Ніна як гаспадыня стараецца, каб у гэтым клубе заўжды быў парадак і чысціня, каб яго вонкавы і ўнутраны выгляд апраўдваў назву аб'екта культуры.

На прадвесні мінулага года Беласточчыну наведалі славацкія жанчыны. Іх, між іншым, накіравалі менавіта ў Курашава, бо ваяводскія ўлады ведалі, што курашаўскія жанчыны не падвядуць. Праўда, гэтыя ж улады забяспечылі ўсё, што трэба для прыёму замежных гасцей.

Напамінаю я пра ўсё гэта, бо вось Ніна Грыгарук паведаміла, што: „Па прычыне гэтага прыёму для чэхаў, дык ледзь мяне не заелі тутэйшыя плеткары". І да гэтай скаргі-заяўкі далучыла яна цэлы вершаваны ліст, які „...пісалі добрыя курашаўскія гаспадары, а не зайздросныя плеткары":

**Мы хацелі б расказаць,**
**Што ў Курашаве чуваць.**
**Вёска велька, як Масква,**
**Ёсць дзве крамы і царква.**
**Назбіралі людзі грошай,**
**Збудавалі клуб харошы.**
**А у клубе гэтым Ніна —**
**Дбайна клубна гаспадыня.**
**Рэчаў розных удастатак,**
**Чыста ў клубе і парадак.**
**Толькі холад дакучае,**
**А чаму, дык гміна знае.**
**Добра справы ідуць у клубе —**
**Не на думцы шумок „ў чубе".**
**Песні, курсы ладзіць рады,**
**І шкаленні, і нарады.**
**У Беласток іх часта звалі,**
**Нават чэхі выхвалялі.**
**Але справу плеткары**
**Вывернулі дагары.**
**І завезлі скаргу ў гміну,**
**І ў міліцыю — на Ніну.**
**Сталі яму ёй капаць,**
**Брудам, злосцю ачарняць.**
**У абарону сваёй Ніны**
**Сталі дружна ўсе жанчыны.**
**Разагналі плеткароў,**
**Як на выгане кароў.**
**Плеткары ўсё ж не здаліся —**
**У ваяводства падаліся.**
**Як замкнуць для іх раты,**
**Каб не рылі, як краты?**
**Што зрабіць, каб злосць прапала**
**І Курашава дружна стала?**

Што ж тут яшчэ дабавіць? Хіба толькі тое, што найлепшым лякарствам на ўсялякае плеткарства — гэта поўная абыякавасць да яго. Праўда заўжды выйдзе пераможнай.

Не сумуй, Ніна! Не апускай рук, пакажы аднавяскоўцам і ўсёй нашай беларускай супольнасці ў Польшчы, што твая зорка яшчэ не пагасла!

**Віктар Рудчык**

### ФЭСТ У ГАЙНАЎЦЫ

14 чэрвеня, у 11 гадзін, у гайнаўскім Амфітэатры ў гарадскім парку адбудзецца народны фэст, які арганізуе Аддзел БГКТ у Гайнаўцы.

У праграме: аўтарскія сустрэчы з „белавежцамі", выступленні народных і эстрадных калектываў. Прадбачваецца калектывы: з Дубіноў — народны і эстрадны, інструментальна - вакальны „Аверс" з Чаромхі, народныя з Арэшкава, Дашоў, Дабрывады, Вулькі Тэрахоўскай.

Сардэчна запрашаем. Пагоду заказалі. **вв**

## КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семяноўскага заліва. Фота Юркі Баброўскага.

## СЯБРЫНА

### ВІВІСЕКЦЫЯ

**Б.:** Не, не хачу выступаць тут са здымкам і прозвішчам, калі ўжо хочаш аба мне пісаць. Чаму? Можа і адчуваю ў сабе такую нотку, што я якраз не такі, як павінен быць, на „перадавіцу". Нетыповы я... А што, як ты надумалася гэта рабіць? Думаеш даваць „нетыповых", ці хочаш паказаць „сярэднюю", стан душы нашага пакалення? А ведаеш, што і з нетыповых вырастуць усе роўненькія, з якімі пасля няма аб чым і гаварыць?! Можам праз некалькі год праверыць, што яны будуць думаць аб тым, аб чым цяпер мараць. А што зрабілі — не гавару ўжо, што зрабілі для грамадства — што патрапілі зрабіць для сябе, для сваёй сям'і. Так, запытайся ў іх.

**М.:** А што ты мне скажаш праз некалькі год? Чым ты лепшы ад сваіх равеснікаў?

**Б.:** Ды я і не бяруся за нейкія вялікія выказванні! Я цяпер не працую, але ці я горшы ад сваіх равеснікаў, якія працуюць і зарплату прапіваюць?.. Для маіх бацькоў і ў іх асяроддзі такі чалавек, як я — зусім непрыдатны для грамадства. Для іх важна, каб чалавек закончыў школы, якія яму пісаныя, залічыў армію, стаў на работу, ажаніўся, зарабляў грошы. Грошы, грошы! А ў мяне ёсць іншыя мары!

**М.:** Вельмі яны дзяцінныя.

**Б.:** Праўда, я так марыў ужо ў 15 год. Кончыць школу, пайсці ў мастацкую акадэмію. Выказаць сябе маляваннем. Мець сям'ю, якую гэтым пракармлю, і сяброў, якія будуць мяне разумець...

**М.:** Цяпер табе ўжо 21 год. Акадэмія ўсё таксама далёка, як раней, а можа і далей...

**Б.:** Мне столькі год, і не магу так ужо думаць, праўда? А калму гэта шкодзіць, што я так усё думаю?! А зрэшты, пажыву, пражыву, намалюю сабе што ад сэрца...

**М.:** Не замала гэтага? Пражывеш... Які ты непаслядоўны! Раз кіпіць у табе гнеў на жыццё, якім жывеш, на недахоп магчымасцей, а іншы раз апускаеш рукі.

**Б.:**...

**М.:** Ты, па-мойму, занадта добра думаеш аб сабе, без падстаў усё гэта. Думаю, што якраз таму ніколі не будзеш маляваць прафесіянальна, можа толькі выстаўкі ў крамах, паводле чужых праектаў! І да 50 год будзеш думаць аб тым, як цябе прыгнятаюць, не даюць волі тваім мастацкім крылам гэтыя нізкія істоты, якім не зразумець сапраўднага мастака!

**Б.:** На тое цябе і вучылі, каб кусала!

**М.:** А што, пасмела ўкусіць за жывое месца?

**Б.:** Паслухай ты! Ці кожны можа сказаць, што яму ўдалося ажыццявіць тое, аб чым марыў? Гэта ж абумоўлена рознымі прычынамі, што большасць, аднак, большасць, ці ты гэтага не заўважыла? — атрымлівае па галаве ад жыцця і робіцца ніжэй травы, ціша вады?..

**М.:** І ты цяпер ужо збіраешся быць гэтай „большасцю"?

**Б.:** Не!

Гутарыла
**Міра Лукша**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Наколькі разумнай і прадбачлівай была палітыка вялікага Гедыміна, пацвердзілася адразу пасля яго смерці. Падзеленае паміж сынамі манарха Вялікае княства Літоўскае не толькі не распалася на варагуючыя паміж сабою ўдзельныя княствы, як гэта вялося ў тагачаснай Свеце, але нават унутрана ўзмоцнілася.

Па запавету бацькі Гедымінавічы імкнуліся пашыраць свае ўладанні не коштам выдзірання адзін другому земель і гарадоў, але падпарадкоўваннем усё новых абшараў, якія дагэтуль знахадзіліся па-за межамі Вялікага княства.

Князь Альгерд-Аляксей націскаў на ўсход і пад яго ўладай неўзабаве апынулася агромадная тэрыторыя сённяшніх Смаленскай, Калужскай, Бранскай, Тульскай, Арлоўскай і значнай часткі Маскоўскай і Калінінскай абласцей, яму падпарадкоўваліся Пскоў і Вялікі Ноўгарад з залежнымі ад яго аграмаднымі прасторамі аж да Белага мора. Палкі князя Альгерда-Аляксея некалькі разоў падыходзілі пад самую Маскву.




Пра першы паход, у 1368 годзе, захавалася ў „Хроніцы Быхаўца" цікавая аповесць.

„Князь вялікі Альгерд Гедымінавіч... быў у добрай прыязні з вялікім князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам. І гэты князь вялікі без якой-колечы прычыны, зламаўшы прыязнь, прыслаў да вялікага князя Альгерда пасла з падарункамі ды звесткаю. Пасол перадаў агонь і шаблю ды словы: „Буду ў зямлі тваёй па красной весне, па ціхаму лету". Тады князь Альгерд вынуў з агніва губку і крэмень ды, запаліўшы губку, даў паслу і сказаў: „Дай гэта гаспадару свайму і скажы яму, што ў нас, у Літве, агонь ёсць, калі ён хоча быць у зямлі маёй па красной вясне і па ціхаму лету. А я, дасць Бог, буду ў яго на Вялікдзень і пацалую яго красным яйцом — цераз шчыт суліцаю і з Божаю дапамогаю да яго горада Масквы свае капʼё прысланю..." Адпусціўшы пасла і сабраўшы войскі свае ўсе літоўскія і рускія, пайшоў ён з Віцебска проста на Маскву. Калі на самы Вялікдзень раніцай князь вялікі Дзмітрый з баярамі і князямі выходзіў з заўтранні з царквы, тады князь вялікі Альгерд з усімі сваімі сіламі, распусціўшы харугвы, паказаўся на Паклоннай гары. Як убачыў такое вялікі князь маскоўскі, агарнуў яго вялікі жах, што Альгерд з аграмаднай сілай прыйшоў на яго паводле свайго

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ВАНДРОЎКА ДУШ

Анкетаваныя намі жыхары усходняй Беласточчыны наогул ахвотна выказваліся аб актыўнасці душ памёршых людзей. Трэба сказаць, што ў гэтых выказваннях — так, зрэшты, як і ва ўсім фальклоры — вельмі многа паэтычнага і прыгожага. Народныя рэляцыі, звязаныя з душамі, сведчаць аб багатых і моцна каларыстычных народных уяўленнях, аб народных схільнасцях да паэтычнай містыфікацыі і свабоднага філасофствавання. Наколькі ж убажэйшае было б наша жыццё, калі б мы не спазналі гэтай беларускай духоўнай сферы.

Трэба падкрэсліць яшчэ раз і тое, што ў разважаннях аб душах нямала супярэчлівага і непаслядоўнага. Аднак гэтыя супярэчлівасці якраз і з'яўляюцца асновай прыгожай ткані народных уяўленняў. Я асабіста адчуваю глыбокую ўдзячнасць для духавенства за тое, што яно не патрапіла або не хацела накінуць народу адзінага інтэрпрэтацыйнага шаблону, які да мінімум абмежаваў бы народную фантазію і паэтычныя ўяўленні.

У большасці жыхароў усходняй Беласточчыны выступае перакананне ў тым, што душы зладзеяў, забойцаў, чараўнікоў, злачынцаў чэрці адразу пасля смерці іх уладальнікаў хапаюць і нясуць у пекла. Душы нармальных людзей на працягу сарака дзён кружаць па свеце. Некаторыя з анкетаваных жыхароў лічаць, што за гэтымі душамі лётаюць анёлы і чэрці, і ў залежнасці ад іх паводзін трапяць яны пасля сарака дзён ў рай або ў пекла. З гэтага вынікае, што не толькі жывы чалавек можа спаўняць высакародныя або грэшныя ўчынкі, але такія ж учынкі могуць рабіць і душы. Моцна рэлігійны жыхар вёскі Гарбары, народжаны каля 1901 года, Ігнат Палэцкі гаворыць наступнае:

„Ты знай, што вольна воля дана не толькі чалавекаві, але і душы таксама. Бог, стварыўшы чалавека, даў яму смяртэльнэ цело і несмяртэльну душу. І, значыт, так як пры жыцёві чалавек можэ рабіць дабро або зло, так его душа па смерці можэ рабіці добрэ або кепско. І ено е так, што калі памрэ чалавек, то сорок дзён его душа летае па свеці. І ў гэтым часі можэ рабіць, што хочэ. І ено ведомо, што за ею летае ангел і злы дух. Ангел падказвае ёй добры ўчынкі, а злы дух — кепскі. Ну і тут бывае так і з жывымі людзьмі: адзін паступае добрэ, а другі кепско. Так і з душамі. Калі яна ведзе сябе добрэ, то после сарака дзён ангел занясе яе ў рай, а калі кепско — то злы дух завалачэ ў пекло".

На пытанне, якія добрыя або злыя ўчынкі можа зрабіць душа, не маючы ні цела, ні сілы, Ігнат Палэцкі адказвае:

„Ты, брацішку, ні праў. Душа не мае цела, але мае сілу. Што яна можэ зрабіці? Усё можэ зрабіці. Можэ чалавека збіць з дарогі і завесці ў карчы або ў балото. Можэ падбіць на які-лень грэх. Можэ жывому адабраць усяку ахвоту да жыцця. А можэ і памагчы ў рабоце, можэ адагнаць ад чалавека ўсенькі смуток, ляноту, ахвоту рабіць злое, ненавісць, злосць.

Ты ведаеш што? Як памер мой бацько, то я, пасучы жывіну, замеціў, што мае каровы ні ідут у шкоду. От так, падыдут да жыта або да картофляў і возьмут самы і завернуцца, хоць выган быў голы, як бубен. А чом, думаеш, так было? Гэто татава душа іх у шкоду ні пускала. Значыт, і жывіною душы могут апекавацца. От, бачыш, што душа зрабіці можэ, хоць і цела ні мае. Гэто табе ні сказкі, але праўда настаяшча, ей Богу!"

Большасць жыхароў усходняй Беласточчыны лічыць, што вандроўка душы заканчваецца на саракавым дні пасля смерці чалавека, калі адбываецца ў царкве набажэнства, прысвечанае памёршаму.

Вяртаючыся да актыўнасці душ, трэба сказаць, што амаль у кожнай вёсцы жыхары прыводзяць „факты", якія сведчаць аб разнародных, найчасцей клапатлівых для жывых, дзеяннях душы.

**А. Баршчэўскі**




(Працяг са стар. 7)

Пра адзін з эпізодаў гэтай барацьбы чытаем у той жа „Хронікі" наступнае: „Любарт Гедымінавіч, брат Альгердаў, князь валынскі і луцкі, не дбаючы пра перамір'е, якое Казімір, кароль польскі, з Літвою на нейкі час заключыў, сабраўшы казакаў літоўскіх і валынскіх, прыйшоў пад замак галіцкі. Замак і горад узяў, мяшчан і купцоў, якія на кірмаш з'ехаліся, многа перабіў і спаліў горад, які ўжо належаў да Польшчы. Таксама і з валасцяў галіцкіх здабычы набраўшы, вярнуўся дадому. Потым зноў, сабраўшы войска вялікае, уварваўся ў Польшчу пад Завіхостам, дзе ўсе валасці, фальваркі, мястэчкі і сёлы мячом і агнём зваяваў і з вялікім здабыткам вярнуўся дамоў".

Нельга не адзначыць, што ў ліку тых „казакаў літоўскіх", якія зваявалі Галіч, былі таксама воі з Берасцейскай, Дарагічынскай, Гарадзенскай і іншых земляў, што належалі Кейстуту, вернаму саюзніку Любарта.

У той час, калі браты расшыралі ўладанні Вялікага княства на поўнач, усход і поўдзень, Кейстут узяўся ахоўваць яго з захаду, ад напору крыжакаў і іхніх саюзнікаў. Асабліва пасля таго, як 23 ліпеня 1343 г. кароль польскі Казімір Вялікі заключыў мірнае пагадненне з крыжакамі, якое пратрывала амаль 40 гадоў. У яго выніку крыжакі мелі толькі адну мэту сваіх нашэсцяў — Вялікае княства. Штогод, а то і па некалькі разоў у год даводзілася Кейстуту адбіваць варожыя атакі. Але і ён не заставаўся ў даўгу і, уварваўшыся ў крыжацкія ўладанні, рассяваў там смерць і знішчэнне. Звесткамі пра расправы Кейстута і Альгерда над крыжакамі запоўнены запісы крыжацкіх хроністаў Генрыха Латышскага, Пятра Дысбурга і іншых. Вось хоць бы ў тым жа 1343 годзе Кейстут з Альгердам, помсцячы, зваявалі Лівонію (Інфлянты), пры тым забівалі ўсіх мужчын, а ў палон бралі толькі жанчын і дзяцей. Праз два гады іхнія палкі пранесліся па Прусіі, палячы сёлы і мястэчкі ды згортваючы багацці і паланянікаў.

Пакручастая, расцягнутая на больш за 600 кіламетраў, мяжа Вялікага княства з Ордэнам стала самай крывавай граніцай у тагачаснай Еўропе. Па закліку крыжакаў на дапамогу ім сцякаліся з усіх заходнееўрапейскіх краін, асабліва з Нямеччыны, тысячы і тысячы ўзброеных па зубы рыцараў. З сабой прывозілі навейшую і найлепшую зброю і сцягвалі найвыдатнейшых спецыялістаў па ваеннай справе. Яны кіраваліся сюды не дзеля пашырэння заходняга хрысціянства сярод язычнікаў і праваслаўных „схізматыкаў", а для здабыцця новых уладанняў крыжацкай дзяржаве. Нападаючы на жмудскія, літоўскія і беларускія сёлы і гарады, з аднолькавай зацятасцю бралі ў палон ці забівалі нехрысціян, як і хрысціян, рабавалі і знішчалі язычаскія храмы і хрысціянскія цэрквы.

І ўсю гэтую раз'юшаную навалу здолеў паўстрымаць Кейстут. Якім цудам?

**Мікола Гайдук**

### Лядовыя збудаванні

Нарвежац Э. Хусебю атрымаў патэнт на выраб буйных плывучых і стацыянарных канструкцый з лёду. Гэта могуць быць нафтавыя платформы, пасадачныя пляцоўкі для верталётаў, марскія прычалы і г.д.

Плывучыя канструкцыі маюць у сваёй аснове воданепранікальнае ядро з двума канцэнтрычнымі кольцамі. Пры дапамозе халадзільных установак на беразе атрымліваюць вялікую колькасць лёду ў форме кубікаў або камякоў, якія затым падаюцца да ядра, палітага вадой з пяском ці апілкамі. Пад уздзеяннем ахаладжальных труб ствараецца маналітная лядовая канструкцыя, якая затым укрываецца цеплаізаляцыйным матэрыялам.

### УСЁ З БУЛЬБЫ

**(на 4 порцыі)**

**Бульбяныя фрыкадэлькі з мясам**

Зварыце і стаўчыце 10 бульбін, дабаўце 3/4 шклянкі мукі ці крухмалу, 1-2 яйкі і добра перамяшайце. З атрыманага цеста скачайце шарыкі (фрыкадэлькі), начыніце іх фаршам: 300 г. варанага мяса прапусціце праз мясарубку, падсмажце дробнанарэзаную цыбулю з адной сталовай лыжкай сметанковага масла, дабаўце перац, соль і перамяшайце.

Фрыкадэлькі варыце ў падсоленай вадзе, затым адкіньце на друшляк, каб сцякла вада. Гатовыя фрыкадэлькі можна паліць сметанковым маслам, памідорным ці смятанным соусам.

**Дранікі**

Абярыце, памыйце і натрыце на дробнай тарцы 13 бульбін. У атрыманую масу дабаўце соль, 2 гарбатнія лыжкі мукі, усё перамяшайце і смажце, як аладкі, у алеі. Гатовыя дранікі ешце са смятанай ці малаком.

## СОННІК

75

**Насякомых** бачыць — страты; кусаюцца — цябе ашукае сябар.

**Натарыус** — пацяшальныя звесткі.

**Натоўп** — вялікі выйгрыш; быць у ім — сваркі, перашкоды.

**Нафта** — шчасце, цікавае знаёмства.

**Нахабнасць** — траўр, жалоба.

**Націраць** — смерць у сям'і.

**Начальнік,** шэф — гонар, прызнанне; быць ім — невялікія клопаты.

**Начальнік** гміны, старшыня сельсавета — з-за няўважлівасці ў цябе будуць ворагі.

**Начны** сторАж — бачыць яго — перапужаешся процілажарнай трывогай, сірэнай; чуваць яго — возьмешся за непрыемную працу; гаварыць з ім — цябе абкрадуць.

**Нашыйнік** — шчасце і пашана.

**Неба** яснае — радасць і шчасце; хмурнае — смутак і клопаты; у полымі, агні — вялікая радасць; усыпанае зоркамі — вялікая спадчына; цёмнае — небяспека; небасхіл (гарызонт) чысты — шчасце ў сям'і, у сужыцці з іншымі.

**Негр** — надарэмна пра нешта клапоцішся; размаўляць з ім — замнога спадзяешся.

**Недарэчнасці** гаварыць — напамінанне.

**Недахоп** адчуваць — надзея на лепшую будучыню.

**Незабудка** (кветка) — верны прыяцель.

**Незнаёмы** — пазнаёмішся з цікавымі людзьмі.

**Нелегальнае** дзіця — табе надакучаць абгаворамі.

**Немаўля** — сямейнае шчасце.

**Немач** — удачныя намеры; раптоўна напала на цябе — шчаслівае здарэнне.

**Неміласэрны** — перамяні свае паводзіны.

**Непагадзь,** слата — усё будзе добра.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У цудоўных васільковых фартушках калектыў з Кляшчэляў. Здымак зроблены пасля выступлення. На заднім плане настаўніца Яўгенія Такаюк, арганізатар і кіраўнік калектыву.

## АЧАРАВАННЕ

Сёння прадстаўляем адну групу лаўрэатаў Першых узнагарод у Конкурсе „Беларуская песня'87“ для школьнай моладзі, цэнтральны агляд якога адбыўся ў Бельску. Будзем і далей паказваць усіх лаўрэатаў гэтага багатага і высокамастацкага конкурсу.

Сапраўдным ачараваннем для гледачоў былі два вакальна-танцавальныя калектывы: з Кляшчэляў і з Гайнаўкі. Гайнаўскія „Бядронкі“ працуюць пры клубе жыллёвай спулдзельні.

Калектыў з Кляшчэляў спяваў і танцаваў „Беларускую танцавальную“ і „Ульяніцу“, якая сеяла і ткала лён. Гайнаўскія „Бядронкі“ праспявалі і пратанцавалі „Купалінку“ і таксама „Беларускую танцавальную“.

(вв)

фота Я. Чэрнякевіч



Новы беларускі бард з Пашкоўшчыны Міраслаў Пракапюк. Спяваў „Беларусачку“ і „Айчыну“.

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Мікола Чарняўскі

### ЗЯЗЮЛЬКА

— Зязюлька, зязюлька,
Дзе сёння была?
Ці многа, прызнайся,
Гадкоў раздала?

— Я ў пушчы лятала,
У сад за раку,
Каго б ні сустрэла,
Вітала: ку-ку!

Сустрэўся мне ў пушчы
Вясёлы атрад
Дзяцей гаманлівых,
Дзяцей-акцябрат.

Іх слухала песні
І ў шатах густых
Гадоў адлічыла ім —
Хопіць на ўсіх!

А ў садзе хлапчук мяне
Быццам чакаў:
Як сонечны зайчык,
Між дрэў ён скакаў.

Убачыць стараўся
Мяне на суку:
„Зязюлька, зязюлька,
Скажы мне: ку-ку!

Я дзесяць гадкоў
Накувала яму:
Чаму гэтак скупа,
Так мала чаму?

Бо знаю Алеся,
Бо чула яго:
Лічыць да дзесятка
Умее ўсяго.

Няхай падрасце —
Зноў у сад прылячу,
І сотню,
І болей
Гадоў адлічу!





Малы здольны саліст з Райска Артур Паўлік спяваў „Касцёр“ і „Вышуміце“. Як бачыце, ён з ног да галавы ў беларускім уборы.



Гайнаўскі калектыў „Бядронкі“. Яго арганізатарам і кіраўніком з'яўляецца настаўніца Ірына Лукашук.

З суседскага агародчыка

## У МЯНЕ ЗАЗВАНІЎ ТЭЛЕФОН...

— Я слухаю.
— Зіна?
— Не, гэта Канстанцін Іванавіч.
— Паклічце, калі ласка, Зіну.
— На жаль, Зіны тут няма.
— Яна што, выйшла?
— Тут наогул Зіна не жыве.
— А дзе яна жыве?
— Не ўяўляю.

— Яна ж мне дала гэты нумар тэлефона... Што ж мне рабіць? Я ўзяў білеты на французскую камедыю.

— Ну што ж, — сказаў я падумаўшы. — Каб білеты не прапалі, я магу схадзіць на вашу камедыю.

На тым канцы провада памаўчалі, потым сказалі з сумам:

— Зіна абяцала пазнаёміць мяне са сваёй маці.

— Ну, гэта ўжо зусім проста, — абрадаваў я яго. — Пасля кіно пойдзем да нас, і я пазнаёмлю вас са сваёй маці. Я думаю, вы ёй спадабаецеся. Давайце зробім так. Вы цяпер прыязджаеце да нас, я вас знаёмлю з мамай, вы гутарыце з ёю, п'еце чай з малінавым варэннем, а мы з жонкай ідзём на гэты французскі фільм.

— З якой жонкай? А я?

— Я ж сказаў, вы з маці п'еце чай, а мы з жонкай, з маёй, канешне...

— А Зіна?

— Пры чым тут Зіна? Вы ж мне тольکі што абяцалі білеты. Непрыгожа ад сваіх слоў адмаўляцца! Звоняць, толькі турбуюць...

На тым баку маўчалі. Нарэшце сумны голас сказаў:

— А дзе вы жывеце?

Я назваў адрас...

**А. Аляксейчык**



— Маня, я ўжо адчуваю, як трачу ў вазе.







### ПАТУРБАВАЛА

Дзядзька Іван гуляе з суседам у шашкі. Падыходзіць да яго жонка, просіць:

— Вазьмі, Іван, вядро ды прынясі вады.

— Дзе ты тую ваду дзяваеш?! — абурыўся муж. — Я ж табе толькі пазаўчора прынасіў.

### РАЗУМНЫ

Сядзяць на кладцы два задрыпанцы і абодва падпітыя. Раптам у аднаго з кішэні выпала залатоўка ў рэчку. Той пасля гэтага ўсе грошы, якія меў, шпурнуў у ваду.

— Што ты, Пятро, робіш? — крыкнуў сябар.

— А што я, дурны, — адказаў той, — дзеля адной залатоўкі ў рэчку скакаць.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Колькі я табе гавару, каб ты свой абутак прывыкаў чысціць? Сланоў і тых у цырку дрэсіруюць...

Сын разважліва пярэчыць:

— Дык у сланоў жа абутку няма!

Made in Zadrypanka

Універсальны венік.



Сумленне праспаў, а самому цяпер не спіцца.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Радавы Калацян, на што трэба звяртаць асноўную ўвагу ў час чысткі зброі?

— На нумар, таварыш сяржант!

— Чаму?

— Каб выпадкова не пачысціць чужую.

*

— Гэты сабака каштуе 100 крон? А можа б вы згадзіліся б на палавіну?

— На жаль, сабака прадаецца толькі цалкам.

*

У горным сяле ў Андах амерыканскі турыст спыніў машыну і пытаецца ў мясцовага жыхара:

— Дзе тут можна дастаць запасныя часткі да гэтага аўтамабіля?

— Тут, за сялом, ёсць круты паварот налева, дык на тысячу метраў ніжэй знойдзеце ўсё, што вам патрэбна...

### ХУТКА ВЕРНЕЦЦА

— Ганна, твой мужык дома?

— Не, яго на работу выклікалі. Там нейкае замыканне. Але ён, напэўна, хутка вернецца, бо казалі, што каротка...

### НЕ ПАСПЕЎ

Гаспадар: — Пасвяціць вам на лесвіцы?

Госць: — Дзякуй, не трэба. Я ўжо ляжу ўнізе.

З „Веснікa Задрыпоніі"

### СПАРТЫЎНАЯ ХРОНІКА

Разыграна першынство электрафабрыкі па футболу. Каманда-пераможца атрымала назву „Электрасіла". Каманда, якая заняла апошняе месца, — „Электрапрайгравальнік".

### БАНТОН

Калі вы захочаце ў рабочы час схадзіць у кіно, ветліва пакланіцеся таварышам па службе і скажыце: „Выбачайце, я іду ў Галоўную ўправу".



### ЧАЛАВЕК ПРАЦУЕ

Прамок за сталом ён ад поту,
Калені нібы са свінца,
Яго прыцiскае работа,
Якой ён не бачыць канца.
Аднак ён на скаргі не здатны,
Працуе надзвычай выдатна.

Ён творча развіў на паперы
Інструкцыі тонкую ніць,
Што секчы належыць сякерай,
А доўбняй не секчы, а біць.
А гэта ж нялёгка, вядома,
Прыдумаць такое без стомы.

Даўно апусціўся змрок шэры,
Ды спаць не ідзе працаўнік:
Няма адпаведнай паперы.
А ён да інструкцый прывык.
Закідвае ўсіх цыркулярамі.
Не змерыць якіх і гектарамі.

**Х. Ангервакс**






### СЛОН У ПАДНЯБЕССІ

Жыхары тайландскай сталіцы наракалі: ува Францыі ёсць Эйфелева вежа, у Рыме — Калізей, у Егіпце — піраміды, а што ж у нашым Бангкоку?.. І ламалі галаву над тым, што б такое прыдумаць арыгінальнае. Выручыў адзін мільянер, які ахвяраваў вялікую суму на стварэнне „непаўторнага сімвала" Бангкока. Ім стаў вялікі аэрастат у форме слана, які ад гэтага часу пастаянна вісіць над тайландскай сталіцай.



### РЭКЛАМА СІГАРЭТ „МАЛЬБОРА"

„Калі вы хочаце дапячы вашаму суседу, купляйце сігарэты „Кэмпел". Па начах вы будзеце з надрывам кашляць, задыхацца і хрыпець так, што ваш сусед не засне ні на мінуту. Калі ў вас добрыя адносіны з суседам, купляйце сігарэты толькі нашай маркі".




**Не забывай таго, хто зрабіў табе добра. Ён можа табе яшчэ не раз спатрэбіцца.**